# Пластылiннiкi

У спрытных далоньках Паўлiны
Коцiцца пальчык пластылiна.
Мякенькi валiк, пасля галушка.
Што гэта будзе? Можа, птушка?

Глянь, вочкамi ўжо мiргае.
Вось табе крыльцы! Няхай палятае!
Ды не, на ножкi ставiць Паўлiна
Птушку ў радзе сям'i звярынай.
А там — вавёрка, слонiк, жырафка...
Цуда-стварэнняў — поўная шафка!
Тут — чалавечкi. У адзеннi яркiм
Стаяць прынцэса, цыган, кухарка,
Араты з плугам, марак, даярка
З кароўкай разам (завецца — Дарка!)...
Iмя у кожнага — або мянушка:
У чалавека, жывёлы i птушкi...

З цёплай далонькi нашай Паўлiны
Выходзяць у свет жывыя жывiнкi.



# Соня

Наша Соня спаць не хоча,
і капрызіць, і віргае.
Спаць не хоча днём і ноччу,
А ці дома, ці ў садочку.

Што прысніцца мае Соні,
каб схацелася ёй сніцца?
Можа, зноў ружовы поні,
у якога свае крыльцы?

І на ім у сне дачушка Соня,
паляціць у край без ночы...
Каб такі цудоўны конік
заляцеў у наш садочак!

# Багуміла

Ёсць сястрычка ў Мікалая,
Для яго яна „Малая”,
ды хоць меншая за Колю,
вырасла го-го, таполяй!

І злуецца Багумілка:
і яна працуе пілкай,
стругам, метрам, малатком!
Хочаш – ляльцы зробіць дом!

І не скажаш, хай бы шыла
ляльцы сукню Багуміла!
Даспадобы ж больш дзяўчыне
пераняць фах па Максіме,
сваім дзедку-сталяры:
дом паставіць у двары,
значыць сцены, вокны, дзверы...
Намалюе на паперы
свой праект – і пілку ў рукі
Без падказкі, без прынукі!

Ну а стружкі, пілавінне
прыбярэ, у печку ўкіне.

А тут бачым, што Міколка
у кутку зноў сеў з іголкай,
ды з кавалачка тканіны
шые сукню лялькцы Ніны:
„Праектантам моды буду!”
Вось такія цяпер цуды!



# Федзя

Страшны непаседа Федзя.
Ён на месцы не ўседзіць.
Толькт ён расплюшчыць вока,
усё вэрхалам ляціць навокал:
за што возьмецца – кідае,
рэчы з шафы расшпурляе,
і паспаць не дасць кату,
з'есць сняданак на ляту
і клубкі бабулі Жэні
так павяжа, што не зменіш...
Ну спыніся, пасядзі!
У адчай нас не вядзі!
Вазьмі кніжку ці алоўкі.
Ты ж малюеш гожа, лоўка.
Федзя не алоўкі ўзяў,
А чорнай  фарбай маляваў
свой партрэцік – вось карцінка!
І ўпэцкаўся як свінка.

# Ірыней

Ірыней з віхром бялявым,
ён ахвотнік да забавы.
Толькі вока ён расплюшчыць,
голаў падыме з падушкі,
рвецца ён да жартаў-гуляў
яшчэ ў начной кашулі.
Мчыцца, носіцца па доме,
спаць не дасць ужо нікому,
зачапае ўсё жывое,

ці старое, ці малое,
і прадметам не даруе –
што паломіць, што зруйнуе...
– Ірыней, не дурэй!
Ірыней, не шалей!
Перш падумай, за што брацца!
Не буры парадку ў хаце!
Ды натура ўжо такая
Ірынея – віхравая!
– Выпі мятную гарбатку!
Пасядзі пры маме, татку!
Мятка Ірка супакоіць?
Зноў памчаўся па пакоях!
Аж спыніўся і маўчыць,
на вуаліка глядзіць,
у акварыум зялёным,
што паставілі ў салоне.
Побач з ім – і Манька-кошка.
Пасядзелі разам трошкі.
Рыбцы ў вочы паглядзелі,
І, як рыбка, спакайнелі!

# Ізабела

Сабачку беленькага мела
з Ізабеліна панна Ізабела.
Балонку-цюцьку з банцікам з атласу
паненка прысвячала многа часу.
Імя сабачкі ёй у тон,
як у цукерачкі – Банбон.
Адзела Ізабела пёсіка у фрак,
а ён: „Гаў-гаў!”, бы штось не так.
„Цяў-цяў, а ў фраку не хачу,
я гэты фрак парву і памачу!”
Зняла фрак з псінкі Ізабелка,
з Банбонавае беленькай кудзелькі,
у шэрстку пагглядзела:
„То ж – паненка!!!
Дзяўчынкі ходзяць у сукенках!”
Плацце ружовае Банбоначцы надзела
Гаспадынька, кемлівая Ізабела.



# Люся і Машка

Мае Люся ляльку Машку.
Шые ляльцы апранашкі.
Машка цюшкі апранае,
рабіць урокі памагае.
Хто падумае: вось жарты!

Ці хоць села раз за партай?
Ці дадасць яна, памножыць?
Ці хоць сказік які зложыць?
Машка ж – без адукацыі!
Ці паможа Люсі ў працы?
Хоць, вядома, не гаворыць,
А за Люсяю паўторыць,
і да ста ўжо злічае,
вершыкі запамятае...
І ўначы, калі спіць дружка,
Маша шэпча ёй у вушка.

## Расціслаў

Імя выбрала бабуля
першаму свайму ўнуку.
„Будзе слаўным рос сынуля!
У мастацтве ці ў навуцы
будзе мець ён дасягненні!” –
меркавалі тата з мамай,
падаючы хлопцу ў роцік,
каб і смачненькім таксама
Росцік рос у Расціслава.

І на першых нарадзінах
усім было аж відавочна:

рос сынок не па гадзінах –
на дражджах уверх падскочыў!
А цяпер, у першым класе,
рост вышэйшы за ўсіх мае.
Вось варожба ўдалася!
А пра поспех – пачакаем!

# Тэкля і Прузя

Мае Тэкля сяброўку Еўфрасіньку.
І абедзве разам правяць імянінкі.
Хоць кампанія абедзвюм удалася,
„Тэкля з Прузяй!”
– так жартуюць з іх у класе.

Адчуваюць яны сябе адмыслова:
Бо ж Юстынак і Паўлінак тут палова,
Аняў пяць, Наталек тры, тры Касі...
Колькі Тэкляў на ўвесь горад?
Больш няма.

Еўфрасінняў? – На ўвесь горад я адна!
Вось далі нам класныя імёны мама з татай.
Бачыце, адны імёны чаго варты!



# Таемны схоў

У цёмным куточку пад маміным ложкам
спрытна схавалася пярэстая кошка.
Максім з Іллюшам кошку шукаюць,
разам з-пад ложка Мурку гукаюць.
Кранула кошка лапкай Іллюшку:
– Хочаце, хлопчыкі, буду падушкай?
Мякка і ўтульня разам пад ложкам.–
Паснулі разам брацікі з кошкай.

# Зубная шчотка



Зубная шчотка Веранічкі
Танцуе ўвечары факстрот
З кавалкам мыла невялічкім,
Худым і тонкім, быццам дрот.

Зубная шчотка Веранічкі
Марыць увесь наступны дзень:
Вось зноў сцягнуць яго з палічкі
І змыліць, каб застаўся цень!

# Неспадзянка

Ніткі, іголку бярэ Янка –
Маме будзе неспадзянка:
Зробіць Янка вышыванку,
Фартушок для мамы Янкі.

Фартушочак вышываны
Незабудкамі з цюльпанам
Сын даруе сваёй маме.
Радасць маме з сына Яна!

# Зося

Зося моркву пасадзіла
ў агародзе бабкі Ядзі.
Морква так расце, што міла:
вылезла аж на паўпядзі,
хоць пасеяла насенне,
вырасла зялёная чупрынка.
Дзе ж у морквачкі карэнне?
Вырас толькі гэткі хвосцік?!
Хіба не такі быць меўся!
Дзе ж ты плёну набярэшся!..
Ды яшчэ ў зямлі схваны!

.



Не рві, Зося, плён зарана!
Потым скажаш, ці ўдалося
гаспадаранне на градках,
Плён багаты будзе ўвосень!
У руплівай гаспадынькі
ўсё збярэцца па парадку

# Поўны ранец

Акуратна ранец Рая
раніцаю загружала.
Ноша будзе немалая:
сшыткі, кніжкі спакавала,
да таго на фізкультуру
майку, трусікі, красоўкі,
бо ж патрэбная абноўка,
калькулятар, фарбы, ручкі,
блокі, пэндзлі і алоўкі...
Зноў шкадуе бабка ўнучку:
– Добра, каб асілак лоўкі
ранец той паднёс у школку!
І з уздыхам кажа Рая:
– Пакуль веды трапяць у галоўку,
цяжкасць каменя спачатку маюць!

# У верасні

Лета песні адспявала,
сена звезла, збожжа зжала.
Спее бульба на палетках,
грады у асенніх кветках.

Вучні рушылі у школу
чарадой жывой, вясёлай.
Калідоры, двор і залы
ціха гоману чакалі.

Школы доўга выглядалі
Дзетак з летніх сініх даляў.
І нарэшце дзеці ў партах,
Бо вучыцца ці ж не варта!

# Каляровая школа

Вераснёвым ранкам
мчымся мы ў школу.
Аўтобус аранжавы
аж гудзе, вясёлы.

Гудзяць дзеткі,
як у вуллі пчолы.
Асеннія кветкі
зацвілі ля школы.

Сонца ім міргае,
просіцца ў школу,
зайчыкі пускае
кампаніі вясёлай.

А ў ранцах стракатых
кніжак, сшыткаў многа!
А „Зорку”, вядома,
дома пачытаем.

# Калыханка

Хто спявае песню-соню?
Хтосьці ў сівым жупане.
Пры ім дрэмле срэбны конік,
што здалёк сюды прыбег.

Замарыўся бедны конік,
узмакрэў ды збіўся з ног...
А для вас спявае гномік,
што ўзабраўся на парог.

Спіце, дзеткі, спіце моцна
і ты, конік, адпачні.
На дварэ заснула ночка,
толькі месячык звініць,

Б’е праменьчыкам у шыбу,
уваходзіць у ваш дом,
Коніку ўплятае ў грыву
стужку, быццам казку-сон.

# Раніцай у школу

У школу Басенька бяжыць,
у цёплых рукавічках.
Шэрань срэбрам зіхаціць,
ціўкае сінічка...

Сапе „гімбус” – ён прывёз
дзяцей з вёсак, прыткі.
Ім нястрашны снег-мароз:
прахукалі шыбкі.

А хто роварам прыпёр,
самы першы зранку?
То па снезе наш Рыгор
мчаўся як маланка.

І  не горш грамад сініц
галасамі дзетак
школа раніцай звініц,
бы над рэчкай летам.

# Байка пра яйка

З яйка вылезла дзівота
непадобная ні крышку
на слана ці бегемота,
на каня і ні на мышку.

Мо, падумаеце, пэўна,
гэта гуска або качка?
А мо курка або пеўнік?
Ці індычка, не іначай?
Або страўсік даўганогі
Вылупіўся з таго яйка?..

У яго ёсць... пёры, ногі...
Рогі... Хвост... Ну вось дык байка!

У садку жыве Істота,
а начуе ў шафцы Янкі.
Пра яе больш скажам потым,
размалюем маляванку.

# Эксперымент у кухні

Глядзіць у рэцэпт наша Мартынка,
каб хоць не памыліцца ў складзе.
Вось рашыла сёння дзяўчынка
маме спячы бісквіт у шакаладзе.

Яйкі, мука — гэта простая справа.
Але ж эсперыментаў так хочацца...
— Дадам да іх яшчэ разынак, какаву,
можа яшчэ і... кіселю торбачку?..

Цяпер так замяшу, каб ад рук адстала.
Пастаўлю ў печку, каб добра спяклося.
І маму папрашу, каб скаштавала...
Вось гаспадынька — Мартынка-самося!

# Школьная Мурка

Мурка грэе сабе спінку
На мурку ля школы.
Сонца цёплае толькі хвілінку,
Не такое, што ўчора.

Восень першая ў Муркі,
І холад прыйдзе за ёю.
Зменіць Мурка сваю скурку,
На футру — зімою.

Вось ліняе наша кошка,
Губіць шэрсць на ганку.
Кожны з нас дае ёй трошкі
Са свайго сняданку.

У нашай школе днём вясёла,
А ноччу так ціха...
Пільнуй, Мурка, нашу школу
Ад мышэй і ліха.

# Кляновы падарунак

Руку падаў мне клён.
Ўсе пальцы залатыя.
Агнём гараць, ды ён
не апячэ мае малыя.

Вазьму яго дамоў
лісток той, шчэ гарачы.
Хай спіць у Кнізе сноў,
раскажа мне, што ўбачыць.

# Вясёлка

Па-над борам, па-над гаем,
у зялёныя лугі
два канцы свае ўпірае
ад высокае дугі
дожджыку дачка і сонца —
каляровая вясёлка.
І ад радасці бясконцай,
у цяпле, ў макроце золкай,
ў мройным пыле, светлым, росным,
пераглянуцца былыя,
сённяшнія і ўсе
будучыя вёсны.

# Цвыркун

Цвыркун-скакун,
Танцор і пявун
Пад канопляй сеў
Ды травінку з’еў,
Напіўся расы,
Страсянуў вусы,
Ў лапку ўзяў смычок,
Віяланчэль на пясок
Кончыкам паставіў,
Фрак сабе паправіў
І зайграў цвыркун,
Зялёны баюн,
Песню гаманкую
Летня-лугавую...
Слухай — сам пачуеш.

# Дождджык

Ідзе дождж: стук ды стук
Кроплямі па вуліцах.
Ён не мае ног і рук —
А да твару туліцца.

У абдымкі схопіць клён,
З дахаў зноў на вуліцу...
Шэпт і стук, шум і звон...
Ходзіць дождж, не змучыцца.

# Грыбы

Распанелы баравік
хваліўся бязбожна:
„Я – той самы, белы грыб!
Рэшта – драбяза мурожная!

І казлюк, і махавік,
і маслюк разлезлы...”
Гарлапаніў – аж пакуль не знік.
У кашы жалезным.

Уся кампанія грыбкоў
у кошыку ўмята.
Хочацца назад, дамоў.
ды карэньчык сцяты.

Уздыхае маслючок:
– Вось яшчэ пажыў бы!
Хай бы нават чарвячок
у госці прыбыў бы!

Баравік таксама сціх,
капялюх на носе:
– Адзін лёс у нас усіх –
на талерцы, ў соўсе,
на патэльні, у слаях,
марынадзе, супе...–

Усе ядомы ў лясах!
Лёсу не падкупіш!

А смяецца „воўчы” грыб
(бо і воўк яго не хоча),
да ваўняначкі прыліп,
цешацца, рагочуць...




Ідзе Кукуруза на баль.
Захопяцца ёю госці:

звабны стан, рост, светлы вуаль
развейвае – срэбны і росны.

І той залацісты качан,
і лісце доўгае, тонкае!
Як горда ідзе ў тан,
золатам зерня пазвоньве.

Апошні танец жыцця.
Расла, даспявала... Жніва.
А ў кожным зярнятку — Яна!



# Лотаць

Цёплы ветрык разгуляўся,
па лугах-палях прамчаўся,
дрэвам косы расчасаў,
лісце ў росце падагнаў,
перабегся па лугах,
хвалі зморшчыў ў ручаях
і стаіўся ў захапленні,
быццам стаўшы на калені:

Жоўтыя, як качаняткі,
што адбегліся ад маткі,
на лугу ля рова кветкі,
залатыя бы манеткі,
з зелені цікуюць вочкам
пад жаўранка званочкам.

# Люты

Месяц люты як лютуе –
снегам дзьме, насы марозіць,
шыбы ў срэбны ліст малюе,
зімку-паню ў санях возіць,
а ад бомаў яго коней
дрыжыкі бягуць па спінцы:
Бомы дзынькаюць і звоняць,
а ў пуховае пярынцы
спіць зямля, і не прачнецца,
пакуль сонца не пагрэе,
месяц Сакавік пачнецца,
месяц Люты пасівее
і паедзе з маразамі зноў
адкуль прыходзіць.
Дык нацешмася мы з вамі
у зімовым карагодзе.

# Вясной

Траўка цягнецца да неба.
Сонцам цешыцца і ветрам,
Мокрай хмаркай, свежай глебай,
Што карэньчык корміць нетрай.
Проста ўвысь глядзіць нявінна,
То смяецца, то ўздыхае,
Пах кладзе на ветру плыні,
Пахі іншыя співае.

# Сакавік

Зноў вясна. У душы – таксама.
Разам з намі тата, мама,
ўсе мы разам маем свята.
– Свята святаў! – кажа тата.
Адраджэнне дум і мар.
Неба светлае без хмар.
І вяртаюцца па небе гусі
Да сардэчнай Беларусі.

# Мышкі-ўвішкі

Мышка з мышкай лапка ў лапку
Поруч селі на канапку.
Сімка ў місцы месіць бабку,
Мышка Міська вяжа шапку
Бабцы мышцы Цапцарапцы.

# Кот Марко

Жыў у Бельску кот вусаты.
Ў хатцы з ім жыла і матка —
Котка Соня-паласатка.
Ў цэнтры горада стаіць іх хатка.

Меў кот Марко пасаду ў школе.
Ды мышэй лавіць не будзе болей,
Бо пайшоў на пенсію каціска.
А на работу меў так блізка!..

Феліксам завуць ката.
Вусы – проста любата.
Як мятла – пушысты ворс.
Дыбам ставіць – які ж форс!

Феля любіць у надзелю
на акне пушыць кудзелю,
каб людзіска, увесь дом
ўсе зышліся пад акном:

Фелька гожы, Фелька велькі!
А якія лапы ў Фелькі!
Прыйдуць кошкі, прыйдуць людзі!
На ўсю вёску слава будзе,
і па гміне, па павеце!..
Здымкі пусцяць ў інтэрнэце!..

Слава славай, а каўбаскі
Прынясіце Фелю наскай!
Фелікс ежу ўпляце
І шчэ больш падрасце!

# Кот Мікіта

Коцік маркотны,
Кату не спіцца:
Быў бестурботны —
Пара жаніцца.
Мяў, мяў, мяў, мяў,
Мяў, мяў, мяў!

Котка-мамуля
Ходзіць ля печы,
Хоча палюляць
Унукаў-малечаў.
Мяў, мяў, мяў, мяў,
Мяў, мяў, мяў!

І кот Мікіта
Выбраў за жонку
Мурку-Муркіту
З вёскі Палонкі.
Мур, мур, мур, мур,
Мур, мур, мур!

Рада мамуля,
Рады суседкі.
Усе на вяселле
Пойдзем у сведкі!
Мур, мур, мур, мур,
Мяў, мяў, мяў!

# Падарунак Маўрыку

Памыў лапкі, спінку, вушкі,
Хвосцік вылізаў і брушка,
Сеў на ўсходкі перад  хатай
І чакае Маўрык свята.

Сёння свята Мікалая.
Падарункаў ён чакае –
Прывязе пан Янка мячык,
Што вышэй за мышку скача.

Прывязе кату ён тапкі,
Каб не мёрз ён у свае лапкі.
Можа, Янка купіць боты,
Каб не мокнуў Маўрык ў слоты?

Шапку з дзіркамі на вушкі,
Каб не змёрзлі яго слушкі,
І кафтанчык з цёплай воўны...
Вось такі пакет  не поўны!

Прывязе ж яшчэ пан Ян
Хрупак-жуек кілаграм.
Малачко ж дастане Маўрык
Ад кароўкі мілай Лаўры.

# Беленькія

Беленькі козлік
ды беленькі коцік
першы раз убачылі снег.
А на снезе
іх ніхто не бачыў –
ні козліка,
ні коціка...
Быццам надзелі
яны ў тую нядзелю
шапачкі-невідзімкі —
козлік з дзіркамі на рожкі,
коцік з дзіркамі на вушкі.
Вось дык смех!

# Нарада ў Мёрах

Пава
з Гандавы
і паўлін
з Трнавы
сустрэліся
разам
у Мёрах.
Там вялі
перамовы
(з перакладчыкам
гракам
з Гандавы)
у справе
паўлінавых пёраў.
Ва ўсёй
Еўропе
раілі,
каб такое пяро
стала Еўропы знакам
з-за формы
і з-за колераў.

# Мішка і мушка

Села Мішку мушка
на лоб,
на вушка...

Мішка
па вушку
„хлоп!”

Мішку
ў вушку
гудзе.

А тая мушка –
дзе?

Мушка
свой гул вядзе
на Мішынай
барадзе.

Мішка
мушцы –
у вушка
так ёй далонькай даў,
аж сам упаў!

# Самотны папугай



Кешка-папугай
Усеўся на плячы.
Кешка-папугай
У плячо таўчэ:
– Дайце трубку мне
Пад дзюбку,
Пазваню ў цёплы край!
Я – самотны, я – самотны,
Я – самотны папугай...

Кешка-папугай
Хоча ў цёплы край
Да маленькіх негрыцят,
Ільвянят і сланят,
Малпянят і страўсянят
І да зебранят!
Я – самотны, я – самотны,
Я – самотны папугай...

Кешка-папугай
Усеўся на плячы.
Кешка-папугай
У плячо таўчэ:
Дайце трубку мне пад дзюбку!
Пазваню ў цёплы край!
Я – самотны, я – самотны,
Я – самотны папугай!

# Певень Рыгор



Певень Рыгор
Упэўнены ў тым:
Сонца з-за гор
Вызвана ім!
Раскукарэкаўся
На ўсё сяло.
Вось так, так:
„Я зрабіў святло!"
І ва ўсю моц
Весціць пявун:
„Я прагнаў ноч!"

Верце, не верце яму!

# Новая мода

Тхор Сцяпан
купіў сарафан
тхарыцы
Міліцы.
Ды куды адзене
такое адзенне
красуня тхарыца,
мілая Міліца?
Ці на вяселле,
ці на пакудзелле?
Мо на хрысціны
да ласкі Хрысціны?
Сарафан харошы
(немалыя ж грошы
каштаваў Сцяпану,
нябеднаму пану).
Ён пра жонку дбае:
корміць, апранае,
бароніць, кахае,
не горш за тхароў,
усіх гаспадароў.

Сарафан ядвабны,
Міліца прывабна,
рады і Сцяпан,
тхор з тхароў – а пан!
Выйшла Міліца
ў краму пахваліцца.

А мы на Міліцу
будзем усе дзівіцца
і пашыем самі
сабе сарафанік.
Хто ваўняны,
хто ільняны –
усе пані
і ўсе панны!



Жабка сохла без шапкі
на сонцы ў жары-спякоце.
А дожджык пайшоў і ў жабкі
змоклі лапкі, спіна і жывоцік.

Парасон, можа, жабцы купім,
каб сонца не пражыла жабку
ці дождж не сек жабкі на купе,
калі возьме парасон яна ў лапку?

Міне восень, засне жабка ў муле,
парасон пачакае жабкі.
Ёй не трэба швэдра, кашулі
ні  шкарпэтак на ўсе яе лапкі.

Як фарсіць будзе ўвесну жабка!
Вось у нікога няма парасона!
Перад жабкай усе здымуць шапкі,
нават бусел у чырвоных кальсонах!

# Жук

Жук Жучкевіч, тып пануры,
Не палез бы ў авантуру,
Бо імя сваё шануе.
Ды абразы не даруе!
Шабляй ён махае спраўна,
Рыцар Жук у свеце слаўны!
З абы-кім ці ваяваць?
Каб свой гонар даказаць?!
Бараніў ён гонар дамы,
Бо Жук — рыцар ёй адданы.
Выбіў зуб ён на таку
Каларадскаму жуку,
Што кароўцы брыдкасловіў,
Божай! А цяпер ляжыць ў саломе;
У чорным фраку тып пануры
І не хоча авантуры!

# Стракозка

Страказа скакала —
ножку паламала.
І не пастракоча!
Стракатаць жа хоча...
Сядзіць на галінцы,
ломіць ёй і ў спінцы.
Цяжкі гіпс на ножцы
муляе ёй трошкі...
Што ўзляцець спрабуе,
Ёю гіпс кіруе.
Пабаліць ёй трошкі.
Скінуць гіпс з той ножкі,
Як вясёлка ўзб'ецца
па-над нашай рэчкай.
Ножак хай пільнуе,
крыльцаў хай шкадуе,
а ў шпіталь, да дзетак,
залятае зрэдка.

# Стукі-пукі

Шпак са шпачыхай селі на бук.
На грабе дзяцел усё „стук!” ды „пук!”
Шпаку шпачыха кажа: „Ці так
Птах свой павінен нішчыць дзюбак?!
Грак ці варона? Дзяцел ці шпак?
Дзюбаць у корань, пень альбо сук?
Каб нос скрывіўся раптам у крук?!”

# Хворы коцік

Захварэў мой бедны коцік,
Наракае на жывоцік:
Пазаўчора з'еў замнога,
А цяпер ляжыць нябога.

Скажы, кіска, дзе баліць?
Можа, зёлак заварыць?
Кіска кажа: мяў-мяў-мяў,
Каб я ведаў, каб я знаў!..

Захварэў мой бедны коцік,
Наракае на жывоцік:
З'еў таблеткі і мікстуры
І гарбатку з канфітурай...

Кіска кажа: мяў-мяў-мяў,
Каб я ведаў, каб я знаў...
Сам бы доктарам  мог быць,
І знаёмых сам лячыць:
Класці мазі і прымочкі,
Пільна капаць кроплі ў вочкі,
Лапкі, вушкі бінтаваць
І рэцэпты ўсім пісаць!
Калі б больш вучыўся ў школе,
Не ганяўся з ветрам у полі!






Скача зайка цэлы час.
Праскакаў... чацвёрты клас.

Гэта ўжо не жарты, дзеці,
Гэта ўжо не малалецце!
Дзыгаў зайка, ды – падрос.
Не падрос куртаты хвост!

Зайка шэранькі, вясёлы
Кепска вучыцца у школе.
Скача зайка цэлы час.
Праскакаў – і пяты клас...

Ну і ў таты, ну і ў мамы
Хвост кароценькі таксама,
Бо яны скакалі ў школе,
Хвост таму не вырас болей.

Зайка шэранькі, вясёлы
Праскакаў і шосты клас!
Зайка шэранькі, вясёлы
Ўжо збіраецца да школы.

Вырас зайка, мінуў час.
І пайшоў ён ў першы клас.
Зайка шэранькі вясёлы
Добра вучыцца у школе.
Ходзіць зайка з класа ў клас,
І ўсё ў першы – увесь час!

# Верабей

Пасяліўся верабей у чужое гняздзечка,
Там, дзе ластаўка жыла. Цёпла, як ля печкі.
Рада жонка вераб'я — не страшны завейкі,
Пад суседняю страхой  жывуць верабейкі,
Дзеткі іхныя, з вясны радаснай сямейкай.
На падворку — свежы корм для курэй і
качак,
Пры карытцы ўся сям'я вераб'іна скача.

Усё ж не хатні  верабей, хоць жыве тут
з намі.
Незалежны птах з яго. Пан ён над панамі,
Хоча — тут жыве, а не  —  дык хатку
зменіць.
Для малога вераб'я — мора па калені!

# Вераб'іная надзея

Усім сябра верабейка,
Хоць не мае ён айчыны.
Долар, грош ці лір, капейка
Для яго – як пілавінне.
Зерне вераб'ю — каштоўна,
Як камар ці мушка.
Мову добра знаць каціну,
Каб не страціць сваю душку.
Хоць душа, нат вераб'іна,
І яна нідзе не згіне.
Разважае у палёце:
„Што дасць Бог і сам нямнога
На ляту схаплю што ў дзюбу,
Каб сямейку пракарміць –
Будзе радасць, а не згуба.
Вясна будзе – будзем жыць!"

# Вожык

Вожык тупае па моху,
Топча ягаднік, кастрыцу,
Хоць змарыўся добра трохі,
Хочацца вады напіцца.
Дык спяшае вожык у хатку.
Ён нясе дамоў здабытак
І не ў пысцы, не ў абхватку,
А на голкі ён набіты.
Назбіраў ён яблык з дзікай
Яблынькі, што на паляне,
І на голачкі натыкаў,
Рады, што аж сэрца вяне:
Запас будзе для сямейкі,
Смачны, хрумсткі і здаровы,
Ды і танны – ні капейкі
Не ўплаціў за дар баровы.
І грыбоў нанёс дахаты,
Ягад і пладоў духмяных...
„Вось які мой плён багаты!”
Сёлета зіма так рана
Лес накрые белым пухам.
На двары хоць завіруха,
Ў хатцы вожыкі у сне
Сніць зноў будуць аб вясне.

# Жоравы з Жураўліка



У мокрым урочышчы Жураўлік
жывуць Грусы: Шарлотачка і Паўлік.
Стройна, дастойна па балоце ходзяць,
двое маленькіх жораўкаў выводзяць.
Вось і яны: у кожнага плюмажык-хвост,
і шэрапёрыя – на поўны рост,
у карміннай шапачцы на галаве,
з белымі шчокамі, тупаюць па траве.
Ходзяць жураўлі з малымі над рэчку,
Вучаць тут паляваць і лётаць канешне.
Распусцяць крылы – больш двух метраў...
І калі разам уздымуцца ў паветра,
убачаць многа сваіх крылатых сяброў
і паляцяць кудысь ад снягоў і вятроў.
Крур-р-р-крур-р-р, курлы-кур-рыл...
А з па-над Нарвы, знізу, айцец Гаўрыіл
на добры шлях ім памахае з Кудака.
Чакаць іх будуць людзі, луг, поле і рака.

# Звярок са Звяркоў

Завёўся ў Звярках звярок.
Ці, можа, забег незнарок?
З пыскі звярок – бы тхарок,
І спрытны ў звярочка крок,
Хутка ўзбярэцца на плот
Як самы пранырлівы кот,
Вавёркай сігае на граб,
Дзярэ кіпцюром: „цап-царап”!
Па колеры футры – як жбік.
З сабакам расправіцца ўміг,
Калі б той яго зачапіць
Адважыўся – лепш не дражніць!
Звераняткі не бойся ані,
Са Звяркоў яго не гані,
Пагладзь па шэрстцы рабой.
Звярок пасябруе з табой!

Стаіць хата на канцы гэтай вёскі.
У хаце той жыве дзед Канікоўскі.
У дзеда – конь, з адной конскай сілай.
Дзеду і каню ў Канюшках жыццё міла,
бо ў канцы вёскі ім ніхто не мяшае,
бо іх хаты, так сказаць – хаты з краю.

Колькі сілы ў старых? Не так многа,
ды спраўляюцца неяк дзве нябогі:
дзед каню ўкосіць сам канюшыны,
конь вядзе дзеда ў лес па маліны.

І вядуць яны разам ціха размову,
ідуць разам – у нагу і падкову.
Лявон – конь той, а дзед – Панцялей.
Разам ім – весялей і шпарчэй.

Воз пад стайняй без працы тырчыць –
конь не мусіць дзеда вазіць.
Дзедаў ровар пад стрэшкай стаіць.
Сядзе дзед на ровар і мчыць,
а тады за ім наўздагон
з сівай грывай на ветры  – Лявон!



# Барсук

Барсучок нару капае.
Любіць хату мецць ён з краю,

каб чужацкая праныра
не заглянула ў свіран,
каб ніякі індывід,
прымяняючы свой спрыт
не надумаў барсуку
пабарсучыць на таку,
не забраў дабра і плёну
(хай і грошык, хай – мільёны)!
Не на тое ж гаспадар
працаваў, збіраў тавар,
каб які лодыр-лянота
пасцягаў усё ўпотай
і хоць каліва адняў
з таго, што барсук сабраў!
Добры бацька, гаспадар
для сям'і – каштоўны дар!



# Глушэц

У Грушках зажыў глушэц Гаўрыла,
глушцам у Грушках жыць вельмі міла,
бо ў Грушках шаноўна прымаюць глушцоў,
і іншых птушак, і іншых звяроў.
Гаўрыла-глушэц – не глухі ён ні грама.
Ён з жонкай Глафірай гарцуе пад брамай.
Бы ў сваім доме гаспадар найлепшы,
ляснічым паказвае: хто тут тутэйшы!
А Броўск той далёка – у Беларусі.
Захоча злятаць – заляціць, ды не мусіць.
Ляснічым каб выбрацца – пашпарт
патрэбны.
Глушэц жа з глушчыхай – проста праз неба!
Дакумент непатрэбны жыхару пушчы!
Сядзяць глушчцы разам, семечкі лушчаць,
і хіба зайздросціць ім служба лясная,
тая, што ў шапцы дзяржаўнай на іх спазірае!

Прыляцелі вароны ў Вараняны.
Здалёк яны ляцелі. Ды так рана!
З самага Варонежа сюды нясло
Варон кузінаў чорнае крыло.
А каб лягчэй варонам – наўздагон
Дзьмуў вецер моцны у хвасты варон.
І рады госцям усе вароны ў Варанянах,
Адно недаспадобы, што так рана
Варонежскія сваячкі прыляцелі,
Бо гасціны адпаведнай не паспелі
Вароны з Варанян зрабіць як след.
На пачастунак – учарашні хлеб!!
Ды кожны жыхар Варанянаў,
Устаўшы у нядзельку рана,
Замежным госцям нясе пачастунак,
Паклаўшы хто ў кошык, хто ў клунак
Крупы, насенне, бульбу ды кілбасы –
Усё, што варанянцы мелі у прыпасах,
Каб усім Варанянам не быў сорам
Прыняць замежніц. І спяваюць хорам
І варанянцы, і вароны прывітанне:
„Няхай жа ўсім вясёлы дзень настане!”

## Змест

